# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 11 (106) Ліпень 2015 г.


## Віцебскі раён: Збор подпісаў забаронены практычна ўсюды

*Выканаўчы камітэт Віцебскага раёну адным зь першых на Віцебшчыне вызначыўся зь месцамі, у якіх забаронена правядзеньне пікетаваньняў для збору подпісаў па вылучэньні кандыдатаў у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь.*

**Згодна з апублікаваным рашэньнем, выканаўчы камітэт забараніў зьбіраць подпісы «на адлегласьці менш за 20 мэтраў ад будынкаў сельскіх выканаўчых камітэтаў, дзіцячых дашкольных установаў, арганізацыяў аховы здароўя, воінскіх частак, будынкаў раённага аддзелу па надзвычайных сытуацыях установы «Віцебскае абласное ўпраўленьне Міністэрства па надзвычайных сытуацыях Рэспублікі Беларусь», аб'ектаў вода-, цепла- і энэргазабесьпячэньня».**




Раённыя чыноўнікі абавязалі работнікаў міліцыі забясьпечыць ахову грамадзкага парадку ў месцах правядзеньня пікетаваньня і зрабіць захады для прадухіленьня правядзеньня пікетаў у месцах, забароненых рашэньнем выканкаму.

Таксама аддзелу ідэалягічнай працы, культуры і па справах моладзі райвыканкаму дадзенае заданьне разьмясьціць на афіцыйным сайце райвыканкаму і апублікаваць у раённай газэце «Жыццё Прыдзвіння» інфармацыі пра месцы, дзе забароненыя пікеты па зборы подпісаў.

Калі ўлічыць, што да аб'ектаў вода-, цепла- і энэргазабесьпячэньня належаць студні, водныя калёнкі, лініі электраперадач і цеплатрасы, то ў вёсках і сёлах Віцебскага раёну збор подпісаў забаронены практычна ўсюды.

## Віцебскага праваабаронцу не пусьцілі на паседжаньне выбарчай камісіі



Леанід Сьвецік

**Праваабаронца Леанід Сьвецік** хацеў трапіць на першае паседжаньне **выбарчай камісіі Кастрычніцкага раёну Віцебску**, якое адбылося 22 ліпеня. Але **намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Пётар Падгурскі** заявіў, што ягоная прысутнасьць «непажаданая».

Леанід Сьвецік кажа, што нават не пасьпеў паказаць накіраваньне ад **Беларускага Хэльсынскага Камітэту** — толькі прадставіўся ў вуснай форме: *«Пётар Падгурскі адразу сказаў, што менавіта на гэтае паседжаньне, дзе абіраецца старшыня камісіі і наогул кіраўнічы склад, мяне допускаць "немэтазгодна". Тады я сказаў, што хацеў бы прысутнічаць проста як шараговы выбаршчык, жыхар Кастрычніцкага раёну, грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Тады паступіла прапанова, каб сябры камісіі прагаласавалі, ці згодныя яны, каб я прысутнічаў. Спадар Падгурскі абвясьціў, што ўсе прысутныя "мусяць падумаць", перш як прагаласаваць. І праз колькі хвілін усе 12 сяброў камісіі — яшчэ адзін сябра камісіі не прысутнічаў, бо быў у камандзіроўцы, прагаласавалі "супраць"».*

Паводле Леаніда Сьвеціка, перад сыходам яму прапанавалі прыйсьці заўтра, зарэгістравацца ў якасьці назіральніка, і тады ўжо прыходзіць на наступнае паседжаньне камісіі. *«Чаму мне нельга было прысутнічаць менавіта сёньня, я так і не зразумеў. Але адмова сьведчыць пра тое, наколькі адкрыта пачынаецца ў Віцебску выбарчая кампанія. Пра тое, што мяне не допусьцілі на паседжаньне раённай выбарчай камісіі, я ўжо накіраваў скаргу ў ЦВК»*, - распавёў праваабаронца.

Напярэдадні Леаніду Сьвеціку было адмоўлена прысутнічаць таксама на працэсе фармаваньня раённых камісіяў у Віцебску. За дзень да супольнага паседжаньня прэзыдыюму гарсавету і гарвыканкаму яму патэлефанавалі і сказалі, што ягоная просьба прысутнічаць на ім у якасьці прадстаўніка БХК не задаволеная, бо *«маніторынг паседжаньняў не дазволены заканадаўствам».*

# У Віцебскую абласную выбарчую камісію ўпершыню ўключылі прадстаўніка партыі БНФ

Гэта **Кастусь Смолікаў, намесьнік старшыні абласной партыйнай арганізацыі**. Ён адзначае, што такое здарылася нечакана — раней, колькі выбараў запар, у абласной выбарчай камісіі з апазыцыянэраў працавалі толькі прадстаўнікі Беларускай партыі левых «Справядлівы сьвет».

Іншых прадстаўнікоў апазыцыйных сілаў у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі на Віцебшчыне не ўключылі.



Кастусь Смолікаў

Фармаваньне камісіяў праходзіла ў атмасфэры таямніцы — прадстаўнікам БХК у Віцебску, Воршы і Дуброўне не ўдалося трапіць на супольныя паседжаньні прэзыдыюмаў мясцовых саветаў і выканкамаў. Прычына адмовы — тое, што выбарчым заканадаўствам не прадугледжаная прысутнасьць прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў. А тым больш «маніторынг» — так была сфармуляваная мэта прадстаўнікоў БХК.

І праваабаронцы, за выключэньнем віцяблянiна **Паўла Левінава**, не змаглі трапіць на працэс фармаваньня камісіяў. Спадар Левінаў быў сьведкам гэтага працэсу, бо сам вылучаўся ў камісіі — Першамайскую раённую ў Віцебску і Віцебскую абласную. Ён распавёў, як стваралі тры раённыя камісіі падчас супольнага паседжаньня прэзыдыюму Віцебскага гарсавету і гарвыканкаму:

*«Старшыня гарвыканкаму сказаў, што не разумее выбарчага заканадаўства — у прыватнасьці, як трэба лічыць галасы прысутных. Таму прапанаваў галасаваць за кандыдатаў у камісіі асобна: каб першымі асобна галасавалі прадстаўнікі гарвыканкаму і асобна — гарсавету. А потым іхныя галасы каб склалі разам. Выходзіла так: прадстаўнікі гарвыканкаму галасавалі за тых, за каго галасаваў старшыня. А чальцы прэзыдыюму гарсавету, паглядзеўшы, галасавалі па іхным прыкладзе».*

Праваабаронца Павал Левінаў не прайшоў ні ў Першамайскую раённую, ні ў Віцебскую абласную выбарчыя камісіі. Што да апошняй, то фармаваньне камісіі наогул праходзіла дзіўным чынам, распавядае праваабаронца. І чаму ягоная кандыдатура была адкінутая, ён ня ведае:

*«Адбывалася пайменнае галасаваньне, але па якіх крытэрах трэба было выбіраць, незразумела. Боназываліся толькі імёны-прозьвішчы ды спосаб вылучэньня. Ні дзе чалавек працуе, ні якая ў яго адукацыя — нічога пра вылучэнцаў не паведамлялі.*

*Я яшчэ хачу адзначыць вычварны падыход да гэтага выбарчага працэсу. У цывілізаваных краінах у камісіі ідуць прадстаўнікі тых палітычных сіл, чый кандыдат ідзе ва ўладу. А ў нас наадварот: ініцыятыўную групу Калякіна зарэгістравалі, але ж у камісіі ўключаюць Партыю працы і справядлівасьці, прыкладам. А вылучэнцы ад Беларускай партыі левых „Справядлівы сьвет“ падавалі дакумэнты, але іх не ўключылі».*

Прадстаўнікоў гэтай партыі не ўключылі ў ніводную з трох раённых камісіяў Віцебску, ані ў Полацкую і Аршанскую раённыя камісіі. У Полацку і Воршы сытуацыю патлумачылі неадпаведнасьцю ў дакумэнтах. Пару гадоў таму гэтыя гарады аб'ядналі з раёнамі, ліквідаваўшы гарвыканкамы. Тры гады было дадзена на тое, каб дакумэнты прывялі ў адпаведнасьць і іншыя структуры. Тым ня менш у камісіі не ўключылі **партыйцаў Мікалая Дзямідава** з Воршы і **Анатоля Пракапенку** з Полацку — фармальна яны вылучаліся ад гарадзкой партыйнай арганізацыі. З той самай прычыны ад удзелу ў аршанскай раённай выбарчай камісіі адхілілі **прадстаўніцу гарадзкой арганізацыі АГП Валянціну Ігнаценку**.

## Апазыцыйным актывістам пагражае адміністрацыйны штраф

**Выконваючая абавязкі старшыні Мазалаўскага сельскага выканаўчага камітэту Кацярына Каралёва шукае сустрэчы з апазыцыйнымі актывістамі, якія пры канцы красавіка паведамілі ў прэсе пра новыя знаходкі чалавечых парэшткаў з прыкметамі гвалтоўнай сьмерці ў лесе ў ваколіцах вёскі Хайсы Віцебскага раёну.**

Прычынай адпраўкі апазыцыянэрам апавяшчэньняў зьявіцца ў сельскі выканкам сталі матэрыялы, атрыманыя ім са Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь. Пры сустрэчы з актывістамі ўлады маюць намер высьветліць абставіны зьдзяйсьненьня імі несанкцыянаваных раскопак у месцах меркаваных масавых пакараньняў грамадзян падчас сталінскіх рэпрэсіяў у 30-х-50-х гадох мінулага стагодзьдзя.

**Апазыцыянэры абгрунтавана лічаць, што іх хочуць пакараць за тое, што яны настойліва патрабуюць ад уладаў правядзеньня сьледства, каб высьветліць прычыны гібелі людзей у лесе і хто ў гэтай гібелі вінаваты.**

У адміністрацыйным кодэксе маецца артыкул 21.15, у якім гаворыцца пра парушэньне парадку правядзеньня раскопак. Законам вызначана, што вядзеньне адміністрацыйнага працэсу па гэтым артыкуле ўскладзенае на выканаўчыя камітэты, у тым ліку і сельскія.

Згодна з дыспазыцыяй гэтага артыкулу, калі раскопкі былі праведзеныя фізычнымі асобамі без адпаведнага дазволу ўладаў, ім належыць пакараньне ў выглядзе адміністрацыйнага штрафу ў памеры да 1,8 мільёну рублёў.

# Паўлу Левінаву не ўдалося праз суд дамагчыся ўключэньня яго ў склад выбарчых камісіяў

**Паўла Левінава дэлегавалі дзьве групы выбаршчыкаў, якія хацелі бачыць яго ў ліку чальцоў Першамайскай раённай выбарчай камісіі Віцебску і Віцебскай абласной камісіі.**

У райсудзе Кастрычніцкага раёну Віцебску, на тэрыторыі якога знаходзіцца гарвыканкам, дзе праходзіла супольнае паседжаньне прэзыдыюму гарсавету і гарвыканкаму, разьбіралася пытаньне, чаму Паўла Левінава не ўключылі ў склад Першамайскай выбарчай камісіі.

*"Выглядае, вылучэньне ў чальцы камісіі мела сплянаваны характар. Напрыклад, заявы ад груп грамадзян, якія вылучалі "патрэбнага" чальца камісіі, былі напісаныя як пад капірку — у кожным па 17 подпісаў і абсалютна, да коскі, аднолькавыя тэксты. Склалася ўражаньне, што падрыхтоўку сьпісаў рабіў ці адзін чалавек, ці нейкая адна структура. Аднак судзьдзя Алена Папкова вырашыла адмовіць у задавальненьні скаргі групы выбаршчыкаў, якія за мяне падпісваліся, — маўляў, галасаваньне праходзіла без парушэньняў, камісія сфармаваная ў адпаведнасьці з заканадаўствам"*, — распавеў Павал Левінаў.


Павал Левінаў

Падобны сцэнар рэалізаваўся і ў Віцебскім абласным судзе, дзе разьбіралася скарга групы выбаршчыкаў, якія дэлегавалі Паўла Левінава ў абласную выбарчую камісію.

*"Да заявы з подпісамі грамадзян былі прыкладзеныя матэрыялы, якія мяне характарызуюць — ў прыватнасьці, пра мой досьвед удзелу ў выбарчых кампаніях як у Беларусі, так і за мяжой. Але на супольным паседжаньні аблсавету і аблвыканкаму былі агучаныя толькі прозьвішчы і спосаб вылучэньня. Думаю, што многія чыноўнікі, якія займаліся фармаваньнем камісіі, добра мяне знаюць, але ніхто за мяне не прагаласаваў. Двое "устрымаліся". Судзьдзя Аляксандар Федзюкевіч аніякіх парушэньняў ня ўбачыў"*, — сказаў Павал Левінаў.

# Прысуд праваабаронцу Міхаілу Жамчужнаму – 6 гадоў строгага рэжыму

**10 ліпеня Віцебскім абласным судом быў вынесены прысуд заснавальніку ПКПУ «Платформ інавэйшан» Міхаілу Жамчужнаму. Паводле рашэньня суду праваабаронца правядзе 6 гадоў у калёніі строгага рэжыму, таксама на 2 гады і 8 месяцаў Міхаіл пазбаўлены права выконваць арганізацыйна-прававыя функцыі. Раней пракурор запрасіў для Міхаіла 7 гадоў пазбаўленьня волі.**


Міхаіл Жамчужны

Міхаіл абвінавачваўся паводле некалькіх сур'ёзных артыкулаў Крымінальнага кодэксу — арт. 376 (ч.1, ч.2), арт. 375 (ч.1), арт. 431 (ч.1, ч.2). Гэта наўмыснае раскрыццё зьвестак, якія зьяўляюцца службовай таямніцай, незаконнае набыццё (выраб) сродкаў для сакрэтнага атрыманьня інфармацыі, якая зьяўляецца службовай таямніцай, а таксама дача хабару.

Для Міхаіла гэта ўжо другі тэрмін, з 2007 па 2012 гады ён адбываў пакараньне паводле эканамічнага артыкулу. Менавіта ў сувязі зь неадбытым паводле першага прысуду дадатковым пакараньнем (2 гады і 8 месяцаў пазбаўленьня права займацца арганізацыйна-прававой дзейнасьцю) Міхаіл не падпаў пад амністыю. Неадбытае паводле ранейшага прысуду дадатковае пакараньне далучанае да вынесенага цяпер прысуду.

**Пасьля ўступленьня прысуду ў сілу і ў сувязі з тым, што Міхаіл Жамчужны зьяўляецца паўторна судзімым, для адбыцьця пакараньня ён будзе накіраваны ў адну з калёніяў, дзе ўтрымліваюцца асуджаныя, якія паўторна ўчынілі злачынствы. У Беларусі гэта папраўчыя калёніі № 5 (г. Івацэвічы), № 8 (г. Ворша), № 9 (г. Горкі), ПК № 11 (г. Ваўкавыск), ПК № 14 (Барысаўскі раён), ПК № 20 ( г. Мазыр).**

# У Наваполацку забаранілі пікет у падтрымку палітвязьняў



Андрэй Гайдукоў

**У Наваполацку мясцовыя ўлады забаранілі правядзеньне 16 ліпеня на Плошчы Будаўнікоў пікетаваньня з мэтай інфармаваньня грамадзян аб наяўнасьці ў Беларусі палітвязьняў. Пра гэта гаворыцца ў адказе за подпісам намесьніка старшыні Наваполацкага гарвыканкаму Альберта Шакеля актывісту аргкамітэту БХД Андрэю Гайдукову.**

Афіцыйная прычына адмовы — “копіі дакумэнтаў аб аплаце паслуг па забесьпячэньні аховы парадку, мэдычнага абслугоўваньня і прыборкі тэрыторыі пасьля правядзеньня масавага мерапрыемства” не былі перададзеныя ў гарвыканкам разам з заявай на правядзеньне акцыі.

Разам з тым, адзначае Андрэй Гайдукоў, пры падачы заявы ніякіх гэткіх патрабаваньняў яму не прад'яўлялі: *“Заяву рэгістраваў асабіста ў выканкаме. Калі б яны хацелі, яны б сказалі мне, што адразу патрэбна нейкая аплата, далі б нумары рахункаў, сумы і іншае. Гэтага не было - мне сказалі: чакайце адказ. А ў адказе - Вы не аплацілі пры рэгістрацыі”*, - падкрэсьліў ён.

# Журналіст Зьміцер Лупач аштрафаваны на чатыры з паловай мільёны рублёў

**23 ліпеня Глыбоцкі райсуд прызнаў Зьмітра Лупача вінаватым у парушэньні заканадаўства аб СМІ – часткі 2 артыкулу 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі).**

Падставай для судовай справы стаў матэрыял “Знайшліся сваякі памежніка, які загінуў на Глыбоччыне 17 верасьня 1939 году”, разьмешчаны 9 чэрвеня на сайце “Эўрарадыё”. Справу разглядала старшыня Глыбоцкага райсуду Ірына Казак.

Судзьдзя не дазволіла выступіць у якасьці сьведкі прадстаўніку БХК па Віцебскай вобласьці, сябру ГА “БАЖ” Паўлу Левінаву. Ён хацеў патлумачыць, што Зьміцер Лупач, як прыватная асоба, не зьяўляецца выдаўцом або распаўсюднікам СМІ. Аўтарства Зьмітра Лупача не пацьвердзіў і прадстаўнік “Эўрарадыё”, дырэктар карпункту Канстанцін Залатых — ён засьведчыў, што гэта быў рэдакцыйны артыкул.

**Адвакат спадара Лупача падкрэсьліла, што сьведкі не пацьвердзілі таго, што давалі інтэрвію Зьмітру Лупачу. І што журналіста пазбавілі права на абарону, бо пратакол пра ягонае правапарушэньне быў складзены 25 чэрвеня, і толькі 10 ліпеня, паводле дакумэнтаў судовай справы, яму патлумачылі ягоныя правы. Адвакат прапанавала скасаваць справу Зьмітра Лупача, прызнаўшы яго невінаватым.**



Зьміцер Лупач

Тым ня менш суд прызнаў журналіста вінаватым, ня ўзяўшы пад увагу тлумачэньні Зьмітра Лупача, які таксама ня лічыць сябе правапарушальнікам. Суд таксама не прыняў высновы адваката, што пратакол правапарушэньня складзены некарэктна: у ім няма зьвестак пра час і месца здзяйсьненьня правапарушэньня, няма подпісу журналіста пра тое, што яго азнаёмілі з правамі і абавязкамі асобы, у дачыненьні да якой вядзецца адміністрацыйны працэс. Апрача гэтага, адвакат зазначыла, што міліцыя праводзіла праверку дзеяньняў журналіста паводле нормаў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу, а ў адміністрацыйным заканадаўстве такога не прадугледжана.

**Справу Зьмітра Лупача аднойчы ўжо вярталі на дапрацоўку ў міліцыю – першапачаткова дата суду над журналістам была прызначаная на 10 ліпеня. Новага пратаколу на спадара Лупача ня склалі. Старшыня суду вырашыла, што ў такім выглядзе, як ёсьць, справа можа быць разгледжаная ў судзе.**

Журналіст кажа, што зьбіраецца абскардзіць рашэньне Глыбоцкага райсуду у Віцебскім абласным судзе.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.